PEN

# Культурны супрацiў у Беларусі

выпуск 50 (63)

13 – 19 снежня 2021

***«У Беларусі мне падабаецца настолькі, што тут я гатовы сядзець у турме».***

**Ігар Банцэр,**
**былы палітзняволены,**
**музыка**

**1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ**

**2. КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА**

**3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ**

**4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ**

**5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ**

**6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ**

**7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ**

**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ



budzma.by

**Надзеі** і **Уладзіміру Калачам,** лідарам гурта Irdorath, прысудзілі 2 гады калоніі за ўдзел у мірных маршах пратэсту. Справу разглядаў суддзя Аляксандр Якунчыхін, дзяржабвінаваўцай выступіла Вольга Емельянчанка. Надзею і Уладзіміра абвінавачвалі ў «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак і навучанні ці іншай падрыхтоўцы асоб для ўдзелу ў такіх дзеяннях, а таксама фінансаванні ці іншым матэрыяльным забеспячэнні такой дзейнасці». Яшчэ трое музыкаў з гурта Irdorath, затрыманых 2 жніўня, – **Пётр** і **Юлія Марчанкі**, **Антон Шніп** — застаюцца ў СІЗА ў чаканні суда.

У **Андрэя Палупанава**, заснавальніка мінскай кінашколы-студыі, 16 снежня адбыўся вобшук.



BY_culture



gs.by

Раніцай 16 снежня ў Мастах на працы затрымалі **Галіну Цярэнцьеву** — выкладчыцу сальфеджыа і музычнай літаратуры мясцовай Дзіцячай школы мастацтваў. Па словах самой Галіны, яе затрымалі за «фота ў Фэйсбуку».



spring96.org

**15 снежня затрымалі 2D-мастачку Галіну Семечка з кампаніі Vizor Games. У «пакаяльным відэа» Галіна «прызнаецца», што была падпісана на «экстрэмісцкія» тэлеграм-каналы, а ў жніўні 2020 года ўдзельнічала ў акцыях пратэсту і перакрыцці дарог. У тэлеграм-каналах таксама паведамляецца пра затрыманне яе мужа.**



budzma.by

**Павел Белавус, менэджар культурнай прасторы і сувенірнай крамы Symbal.by, не выйшаў на волю пасля сканчэння другіх «сутак». 17 снежня яму дадалі яшчэ 7 сутак адміністратыўнага арышту па артыкуле «дробнае хуліганства». Павел знаходзіцца за кратамі ўжо больш за месяц.**

**На Паўла Латушку, палітыка, былога Міністра культуры і дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, які быў вымушаны з’ехаць з Беларусі, пачалі чарговую крымінальную справу за «Перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў» і шкоду дзяржаве «ў асабліва буйным памеры». У 2012 годзе тагачасны міністр культуры даў указанне аб уключэнні «шэрагу загадзя незапатрабаваных кінапраектаў» у тэматычны план па вытворчасці фільмаў, якія былі прафінансаваны з дзяржбюджэту. Гаворка ідзе пра фільм «У тумане» Сяргея Лазніцы, зняты па аповесці выбітнага беларускага пісьменніка Васіля Быкава.**



people.onliner.by

**Па інфармацыі з медыя, Аляксандр Багданаў (Рара Bo), арт-менеджар і дыджэй і Максім Крук, сцэнограф, 17 снежня былі асуджаныя суддзёй Марынай Клімчук на 3 гады «хіміі» з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу. . Іх затрымалі 2 верасня пасля вобшуку і абвінавацілі ва «ўдзеле ў дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак».**



budzma.by

# 2. КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА




PEN Belarus

**Паводле індэксу Беларускага Хельсінкскага Камітэта, ацэнка права беларусаў на ўдзел у культурным жыцці - 2,8 з 10.**

**Ацэнка па кампанентах:**

**- Прыняцце ўдзелу ў культурным жыцці - 2,7;**

**- Доступ да культурнага жыцця - 3,5;**

**- Магчымасць унёску ў культурнае жыццё - 2,3;**

**- Абарона культурнай разнастайнасці - 2,6.**

**У ацэнцы стану права на ўдзел у культурным жыцці прынялі ўдзел эксперты ПЭН.**

# 3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ



**Ігар Банцэр, палітзняволены музыка, павінен быў выйсці з карцару 15 снежня, а на волю – 17, але 16 снежня стала вядома, што пакаранне карцарам яму працягнулі да дня вызвалення. Яго суседзі па «хіміі» лічаць, што прычына магла быць у тым, што Банцэр сядзеў «на сутках» у ІЧУ за 30 кіламетраў ад месца «хіміі». Калі б музыка вызваліўся адразу з карцара, то ўжо не лічыўся б зняволеным і за рэчамі палітзняволенаму прыйшлося б дабірацца самастойна. 17 снежня Ігар выйшаў на волю.**

**Адміністрацыя магілёўскай турмы аказвае ціск на Мікалая Дзядка, палітзняволенага актывіста і літаратара, складаючы рапарты за «парушэнні», якія ён не здзяйсняў. Таксама вязню адмаўляюць у аказанні медыцынскай дапамогі.**



racyja.com



novychas.online

**Андрэй Пятроўскі, палітзняволены настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, даслаў з-за кратаў спіс кніг, якія лічыць вартымі ўвагі: сярод іх кнігі Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Арлова, Леаніда Дайнекі, Францішка Аляхновіча і іншых.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




Беларусы Ірына Паўловіч і Антось Сівых пераехалі ў польскі горад Лодзь. Маладыя людзі знялі фільм «Праз рэйкі» пра студэнтаў, якія зведалі такую ж дарогу з Беларусі ў Польшчу.

budzma.by

Беларускі Свабодны тэатр пад кіраўніцтвам Мікалая Халезіна і Наталлі Каляды пераехаў у Польшчу, дзе працягне сваю працу над спектаклямі.



dw.com





Таццяна Вадалажская, каардынатарка праграм Лятучага ўніверсітэта, і Марыя Мартысевіч, перакладчыца, паэтка, эсэістка, літаратуразнаўца, былы член праўлення ПЭНа, абмеркавалі вынікі літаратурнага года ў праграме «Што гэта было?»: выбух творчасці ў 2020-21 гг., феномен турэмнай творчасці і творчасці рэпрэсаваных, а таксама цікавасць да беларускай культуры ў свеце.




**Лявон Вольскі** і **Маргарыта Ляўчук** прэзентавалі анімацыйны кліп на песню «Палон». Песня была запісана на словы **Аляксандра Лукашука** некалькі год таму і прысвечана палітвязням.
Мастачка анімацыйнага кліпа — **Маргарыта Ціхановіч**.

Суполка беларусаў ва Уроцлаве, Польшча, 19 снежня правяла калядны канцэрт, на якім выступілі **Зміцер Цярэнцьеў** з праектам «Добрая музыка», пісьменнік і бард **Зміцер Бартосік**, а таксама **Алесь Дзянісаў**, лідар рок-гурта «Дзецюкі».







З 18 снежня **Сяржук Доўгушаў** з камандай **Tradycyja** адправіўся ў святочнае турнэ па ЗША і Канадзе з інтэрактыўным канцэртам, госці якога змогуць навучыцца спяваць традыцыйныя беларускія песні, калядаваць і разам правесці калядны абрад.

budzma.by

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Wikimedia Commons

**Мікалай Статкевіч, палітзняволены палітык, якога 14 снежня асудзілі на 14 гадоў зняволення, даслаў з следчай турмы свае разважанні пра сэнсы жыцця, грамадства і з парадамі:**
***«Прымай у якасці ўласных жыццёвых сэнсаў тыя чалавечыя, грамадзянскія, маральныя абавязкі, якія адпавядаюць твайму пачуццю справядлівасці. Чалавецтва выжыла і развілася дзякуючы салідарнасці супляменнікаў, палоў і пакаленняў. Ты прыйшоў на шмат што гатовае. Не будзь няўдзячны і зрабі свой унёсак. Імкніся жыць у адпаведнасці са сваім маральным пачуццём і не ахвяруй уласнай годнасцю. Гэтыя якасці закладзеныя шмат каму з нас генетычна. Грэбуючы імі ты ствараеш унутранае напружанне і запускаеш працэс унутранага самаразбурэння, якое праявіць сябе ў фізічных і псіхічных хваробах, у неабходнасці алкагольнай ці наркатычнай кампенсацыі».***

**Сцяпан Стурэйка, старшыня праўлення беларускага ICOMOS — супольнасці экспертаў у сферы аховы спадчыны: рэстаўратараў, музейшчыкаў, грамадскіх актывістаў:**
***«Найперш хочацца паказаць, што нам ёсць чым ганарыцца. І ў мінулым, і сёння з'яўляюцца рэстаўрацыйныя праекты без перабольшвання сусветнага ўзроўню».***



budzma.by



Novayagazeta.ru

**Аляксей Палуян, беларускі рэжысёр, выступіў у Еўрапарламенце:**
***«Я не кажу вам ратаваць беларусаў, а кажу вам зрабіць тое, што вы самі абяцалі. У беларусаў засталося мала моцы і часу, таму я прашу вас не забыць 10-мільённы еўрапейскі народ, які жыве толькі ў 2 гадзінах палёту ад Брусэлю, так блізка і адначасова далёка гэта. Калі Еўропа насамрэч абараняе правы чалавека і свабоду слова, то чаму за гэтыя каштоўнасці дагэтуль забіваюць у беларускіх турмах?»***

**Крысціна Дробыш, актрыса з трупы Купалаўцы — былых актораў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, якія звольніліся ў 2020 годзе на знак пратэсту, паведаміла пра вымушаны ад'езд з Беларусі:**
***«Мае чалавечыя рэсурсы ў нейкі момант проста развіталіся са мной. За апошнія 490 дзён я аддала усё, што ў мяне было, акрамя аднаго — маёй фізічнай свабоды.***
***Са мной забаронена працаваць на радзіме. Хтосьці і сам баіцца супрацоўнічаць, хтосьці проста знікае.***



budzma.by

***Не асуджаю і бясконца ўдзячная тым, хто дагэтуль застаецца побач. Часам адчуванне, што краіна пражавала мяне і выплюнула. Кажучы словамі аднаго мудрага чалавека, я працую і жыву ў Беларусі, толькі не фізічна. Не маю ні злосці, ні расчаравання. Як заўсёды бясконца веру ў людзей. Была, застаюся і буду Купалаўцам. Буду рабіць і надалей тое, што магу і ўмею, пакуль хопіць сілы».***



pravda.com.ua

**Марыя Калеснікава, палітзняволеная актывістка і музыка, згадала пра добрае ў 2021 годзе:**
***«Цешыць кожны новы дзень майго жыцця. Нават у турэмнай клетцы мой свет — гэта выдатныя, дарагія мне людзі, якія хоць і далёка, але побач са мной, гэтае вялікае, вечнае мастацтва, музыка, кнігі, добрыя лісты і каханне. Я дакладна ведаю, што гэтыя дзіўныя часы скончацца, а ўяўляеце, як мы будзем шчаслівыя бачыць і абдымаць адно аднаго?»***

**Аляксандр Чахоўскі, выканаўчы дырэктар Беларускай Рады Культуры,**
***«Сіла беларусаў у тым, што ў моманты яднання можам забывацца на крыўды, быць напраўду мудрымі і разам дасягаць неверагодных вынікаў. Разам мы можам пабудаваць сапраўды выдатную краіну, і культура будзе важным складнікам яе жыцця».***



# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

18 снежня ў Лодзі адбыўся першы Дзень Беларускай Культуры. На фестывалі зайграў культавы музыка Лявон Вольскі разам з Вольным аркестрам, адбылася выстава «Лісты палітвязням», сустрэча з Аляксеем Дзікавіцкім, аўтарам кнігі на палескай гаворцы «Оньдэ», прэм’ера фільма пра беларускае студэнцтва Лодзі «Праз рэйкі».



budzma.by


budzma.by

З 13 снежня ў Львове каля ратушы пачала дзейнічаць выстава, на якой прадстаўлены партрэты актывістак з Беларусі і Украіны. Сярод іх — Марыя Калеснікава, палітзняволеная актывістка і музыка. Работы выкананы маладымі журналісткамі, удзельніцамі ўкраінска-беларуска-нямецкага праекта «МедыяЛаб Фем».

У Антона Шніпа, палітзняволенага музыкі з гурта Irdorath, з’явіўся «хросны» Юліян Пальке з Нямецкага Бундэстага. Еўрапейскія палітыкі бяруць на сябе сімвалічныя абавязкі хросных бацькоў беларускіх палітвязняў у межах кампаніі салідарнасці #WeStandBYyou, зладжанай Libereco.



by_culture

# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**Па стану на 19 снежня ў Беларусі 927 чалавек прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца.**
**Беларускі ПЭН як аб'яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У снежні 6 чалавек, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Ксенія Сырамалот, паэтка і студэнтка (19 снежня); Аляксандр Галкоўскі, навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН (24 снежня); Мікалай Папека, паэт і пчаляр (28 снежня); Валерыя Кацюгава, палітолаг і аналітык, рэдактарка і аўтарка «Беларускага штогодніка» (30 снежня ), Павел Севярынец, пісьменнік, сузаснавальнік партыі БХД (30 снежня ) і Мія Міткевіч, менеджарка ў сферы культуры (31 снежня).**

**Павіншуйма палітвязняў з днём нараджэння і надыходзячым Новым годам паштоўкай ці лістом!**

**Адрасы для лістоў:**

**Ксенія Сырамалот і Мія Міткевіч: ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3;**
**Аляксандр Галкоўскі: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №9. 210034, г. Віцебск, вул. 3-я Чэпінская, 39;**
**Мікола Папека: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №21. 247760, г. Мазыр, бульвар Юнацтва, 24;**
**Валерыя Касцюгава: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**
**Павел Севярынец: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.**

